# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ТРАНСПАРТНАЯ АПЕРАЦЫЯ

Ужо можна назіраць перщыя крокі далейшага пашырэння амерыканскай вайны ва В'етнаме, а першым прыкладам з'яўляецца 101 дэсантная дывізія, якую перакінута з ЗША самалётамі на В'етнамскі фронт.

Гэтай транспартнай аперацыі амерыканская прэса надала славу, падкрэсліваючы тэхнічную спраўнасць «паветранага мосту». Такім чынам афіцыйныя асабістасці хочуць аслабіць уражанні, якія ў грамадскай думцы вырабіла апошнім часам актыўнасць партызан і няўдачы амерыкана - сайгонскіх войск у апошнім часе. Генерал Вестморленд катэгарычна запэўнівае, што ўжо знаходзіцца ў стадыі «выігрывання вайны».

### АДКАЗ...

...генералу даў Вальтэр Ліпман найвыдатнейшы амерыканскі публіцыст на старонках лонданскіх часопісаў. Гэтай вайны ЗША не могуць выйграць, так як слон не можа выйграць вайны з маскітамі, якія яго атакуюць. Можна знішчыць В'етнам, але не можна выйграць вайны. Калі нават наступіць перамога над усімі партызанскімі сіламі — што з'яўляецца больш чым сумнявальным — пасля нейкага часу вайна выстраліць зноў полымем сялянскага бунту супраць карупцыі ваенных урадаў Сайгона і ЗША. А адначасова гэта вайна, найбольш непапулярная ў гісторыі Амерыкі, маральна разбэшчвае Злучаныя Штаты.

### АДСТАЎКІ

Пасля адыходу Макнамары падалі ў адстаўку некаторыя вышэйшыя працаўнікі адміністрацыі Джонсана. Гаворыцца (калі аддаем нумар да друку) аб рэзігнацыі Гольдберга, які прадстаўляе ЗША ў ААН. Адстаўкі, якія адбыліся і якія маюць наступіць, звязаны з в'етнамскім канфліктам.

Штораз у шырэйшых кругах пераконваюцца, што Джонсан вырашыў паддацца волі генералаў і надумаў пайсці на неагранічаную эскалацыю. На гэтай хвалі хоча ён выйграць выбары будучы глухім на ўсе перасцярогі. Не ўсе супрацоўнікі Джонсана гатовы без засцярог папіраць такую палітыку, — адсюль і адстаўкі.

### BLUT UND ERBE

Пасля з'езду, які адбыўся нядаўна, неагітлераўская партыя НПД падвойвае сваю актыўнасць. Яе правадыр Адольф фон Тадэн, якога называюць «Адольфам II», апавясціў пакліканне спецыяльных атрадаў, якія маюць ахраняць НПД перад... тэрарам праціўнікаў.

Ідэнтычна, такімі ж аргументамі матываваў Адольф I Гітлер стварэнне бандыцкіх СА і СС. Штопраўда, сучасныя аддзелы маюць называцца СГ (Schutzgemeinschaft — абаронныя абшчыны), але гэты маскарад мала каго ўвядзе ў заблуджэнне.

Фон Тадэн, зрэшты, штораз часцей прымяняе гітлераўскую мову. Найнавейшая яго стандартная фраза — «Blut und Erbe» (кроў і спадчына) з'яўляецца проста перапрацоўкай старога «Blut und Boden» (кроў і зямля). А.К.

## БССР

### КАЗЛОЎ

У Мінску памёр **Васіль Казлоў** — Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Беларускія газеты публікуюць успамін пра Казлова, падпісаны Л. Брэжневым, А. Касыгіным, М. Падгорным, П. Машэравым, С. Пілатовічам, С. Прыгыцкім, М. Танкам і іншымі асабістасцямі палітычнага і дзяржаўнага жыцця Саюза ССР і Беларусі.

Падчас урачыстага пахавання Васіля Казлова вуступіў з прамовай, м. ін., П. Машэраў, першы сакратар беларускай кампартыі. Ахарактарызаваўшы вялікія заслугі Васіля Казлова для Савецкай Беларусі, П. Машэраў сказаў у заканчэнні сваёй прамовы:

«Цяжка, вельмі цяжка ўсім нашым людзям, усім сябрам і таварышам Васіля Іванавіча прымірыцца з думкай, што ён выбыў з нашых радоў. Так, людзі смяротныя. Але выдатны плён іх барацьбы і працы, добрыя справы іх бессмяротныя. Яны жывуць і будуць жыць на карысць новых пакаленняў... Кампартыя Беларусі і працоўныя рэспублікі панеслі цяжкую страту».

Рэпарцёр Беларускага тэлеграфнага агенцтва так апісвае пахаванне: — «Зноў гучаць жалобныя мелодыі, калі труна апускаецца ў магілу. Паветра ўзрушваюць залпы салюта. Плывуць велічныя гукі гімнаў Савецкага Саюза і Беларускай ССР. Ля магілы пакрытай вянкамі і букетамі кветак, у чоткім страі праходзяць падраздзяленні Савецкай Арміі, аддаючы апошні доўг Васілю Іванавічу Казлову».

Васіль Казлоў нарадзіўся ў вёсцы Заграддзе Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці.

### ЛУКАШЭВІЧ

5 снежня адзначаўся Дзень Канстытуцыі СССР. У сувязі з тым Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Д. Лукашэвіч апублікаваў у «Звяздзе» артыкул пад загалоўкам — **«Асноўны закон жыцця зямлі савецкай».**

Лукашэвіч, між іншым, піша:

**«Сёлета Беларусь атрымае прамысловых вырабаў у вартасным выражэнні столькі, колькі выраблялa іх уся прамысловасць царскай Расіі напярэдадні першай сусветнай вайны».**

### СЕМІНАР

У Доме творчасці імя Якуба Коласа ў Каралішчавічах адбыўся рэспубліканскі семінар празаікаў і паэтаў. Пачынаючыя літаратары сустрэліся з галоўным рэдактарам месячніка «Маладосць» Алесем Асіпенкам, з сакратаром ЦК камсамола Беларусі Арсенем Ваніцкім, праслухалі гутарку кандыдата філалагічных навук Барыса Міцкевіча аб плынях і кірунках у сучаснай буржуазнай літаратуры.

### ПАМЯЦІ

У клубе Саюза беларускіх пісьменнікаў адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння Цішкі Гартнага.

З дакладам пра жыццёвы і творчы шлях Цішкі Гартнага выступіў Сцяпан Александровіч. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ВЁСКА Ў ЛІКАХ

ГУС (Галоўнае статыстычнае бюро) апублікавала статыстычны справачнік пад загалоўкам «Насельніцтва вёскі» (Ludność wiejska). З публікацыі гэтай вынікае, што ў палове снежня 1963 года (гэтай даты датычаць апублікаваныя падлікі) на вёсцы пражывала 15.543.000 асоб, гэта значыць на 2,4 працэнта больш, чымсьці ў снежні 1960 года. Прырост гэты аднак вельмі няроўны ў пераліку на паасобныя ваяводствы. Найбольшы прырост вясковага насельніцтва (каля 5 працэнтаў) быў у прамысловых ваяводствах — Катавіцкім, Кракаўскім, Апольскім. У ваяводствах: Кялецкім, Беластоцкім і Люблінскім наступіла нават пэўнае паменшанне насельніцтва вёскі. Апублікаваныя падлікі паказваюць, між іншым, што вёска пастаянна старэецца. Працэнт асоб ва ўзросце пасля 60 гадоў, якія жывуць з сельскай гаспадаркі, у 1960 годзе раўняўся 11,8 у 1966 дайшоў ён ужо да 15,9.

### СТРАТЫ

Падлічана, што ў выніку прастояў і непрысутнасці ў працы затрачана ў электрамашыннай прамысловасці каля 37 мільёнаў гадзін. Адпавядае гэта гадавой працы 34 тысяч рабочых, якія маглі б выпрадукаваць тавараў на суму 5,5 мільярда злотых. Непрысутнасць у працы насільваецца падчас свят і пасля выплатаў. Звыш 60 прац. непрысутных без апраўдання — гэта людзі ва ўзросце 18—25 гадоў з кароткім стажам працы.

### ШКОЛА НАРАЧОНЫХ

Школу нарачоных адкрыта ў Гарадзіску Мазавецкім. Заняткі адбываюцца два разы ў тыдні і вядуць іх спецыялісты розных навуковых устаноў сталіцы. У занятках прымае ўдзел 30 асоб ва ўзросце ад 18 да 35 гадоў.

### ТЭЛЕФОНЫ

Перш у Гданьску, а потым у Вроцлаве друк пачаў сістэматычна падаваць нумар тэлефону, на які павінен пазваніць самагубца перад тым, як вырашыць апошні свой крок. Пры тэлефонах праз усе суткі дыжуруюць лекары псіхіятры. Апошнім часам тэлефон такі ўводзіцца ў Лодзі, дзе з кандыдатам на самагубства праводзіць будзе не толькі доўгую тэлефонную размову, але выязджаць да яго будзе карэтка хуткай дапамогі, са спецыялістамі ад самагубстваў, якія будуць старацца адгаварыць пацыента ад яго намераў.

### МАЛАКО

У Варшаве адбыўся IV з'езд дэлегатаў малачарскіх спулдзельняў. На з'ездзе сцверджана, што за апошнія 4 гады прадукцыя масла пабольшылася на 54 прац., сыраў — на 67 прац., тварагу — на 58 прац. і смятаны — на 40 прац. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ВУЧОНЫЯ І КАСТРЫЧНІК

У Беластоку адбылася папулярна-навуковая сесія прысвечаная 50-тай гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Наладзілі яе: Беластоцкае навуковае таварыства, Ваяводскі камітэт Фронту адзінства народа, Ваяводскае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы і Клуб міжнароднага друку і кніжкі. У сесіі прынялі ўдзел літоўскія і беларускія вучоныя. Падобныя сесіі адбыліся таксама ў Бельску, Элку, Сувалках і Сейнах.

### ПЕРАД СВЯТАМ

Паводле загаду міністра ўнутранага гандлю ў нядзелю 17 снежня маюць быць адкрыты ўсе крамы — спажывецкія і прамысловыя, а ў панядзелак 18 снежня можна будзе нармальна купляць мяса. Так што смела на бліжэйшую нядзелю можна рыхтаваць паездку ў горад за пакупкай.

### МАЛАДЫЯ СЯЛЯНЕ

Арганізацыя Саюза вясковай моладзі Беластоцкага ваяводства налічвае 45 тысяч членаў. У нядзелю 10 снежня г.г. адбыўся VI яе з'езд. Арганізацыя СМВ дзейнічае на Беласточчыне ўжо 11 год.

### СУШАНАЯ БУЛЬБА

У Кнышыне, побач ПГР-у, будуюць сушарню для бульбы, у якой, як яблыкі, можна будзе высушыць у год 8—9 тысяч тон бульбы. Сушаная бульба захоўвае ўсе свае асноўныя кармавыя вартасці і не псуецца падчас пераховування.

### БЮДЖЭТ ГАЙНАЎКІ

Радныя горада Гайнаўка зацвердзілі бюджэт на 1968 год. У распараджэнні гарадскіх улад знаходзіцца 6 мільёнаў 250 тысяч злотых.

### МАЛАКО

Міхалоўская малачарня ўжо поўнасцю выканала свой гадавы план. Купіла яна ад сялян з навакольных вёсак 6200 літраў малака.

### СВЯТЛІЦА Ў РАГАЧАХ

Жыхары вёскі Рагачы ў Сямяціцкім павеце грамадскім чынам будуюць сабе стражацкую рамізу, у якой адначасова будзе памяшчацца святліца. Кошт пабудовы — 240 тысяч злотых. Палавіну грошай жыхары вёскі паабяцалі даць самі.

### ЁЛАЧКІ

Звыш 60 тысяч ёлачак з беластоцкіх лясоў упрыгожыць сталічныя варшаўскія кватэры, 45 тысяч паедзе ў Люблін, а 6,5 тысяч у Варшаўскае ваяводства.

### СВЯТЛО

Вёскі Вілінава і Такары ў Сямяціцкім павеце атрымалі электрычнае святло.

### НОВАЯ КНІГАРНЯ

У Бельску адкрыта новую кнігарню. Гэта прасторны і добра абсталяваны будынак. У новай кнігарні, апрача кніжак, можна купіць рэпрадукцыі малюнкаў найлепшых мастакоў.




**NIEDZIELA, 17.XII.**

8.35 Program dnia. 8.40 TV Kurs Rolniczy. 9.15 „Przypominamy, radzimy". 9.30 „Przedmieścia Leningradu". 10.00 Dla młodych widzów: „Sport i zabawa" — finał rozgrywek sezonu 1966/67 (Berlin). 11.05 Konkurs na film amatorski o Przyjaźni Polsko-Radzickiej (Moskwa). 12.05 Wiadomości dziennika. 12.15 PKF. 12.25 „Dzieci i mewy" — film bułg. 12.40 „Bawcie się z nami" — rewia amatorskich zespołów górniczych woj. Katowickiego. 13.25 Teatrzyk dla przedszkolaków: — „Lalka i miś". 14.05 „Towarzysze niedoli" — film. 14.35 „Przemiany". 15.05 „Oczekiwanie" — film („Bonanza"). 15.55 „Wielka gra" — teleturniej. 17.00 „Legenda Bałtyku" — tv inscenizacja opery F. Nowowiejskiego. 18.00 „Ludzie i wolty". 18.20 „Z okien Ratusza" („Piórkiem i Węglem"). 18.40 „Spotkanie z pisarzem" — Władysław Machejek. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.00 Niedzielny program rozrywkowy (Moskwa). 20.45 „Hokeiści" — film fab. radz. 22.15 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 18.XII.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.20 Politechnika TV. 16.25 i 22.55 Politechnika TV. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.15 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.30 „Eureka". 18.05 „Na zdrowie". 18.25 „Ocean Lodowaty" — film radz. 18.45 „Kino Krótkich Filmów". 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.05 Teatr TV: Fritz Hochwalder — „Maliniarz". 21.30 „Janosik idzie do fabryki". 22.00 Dziennik TV.

**WTOREK, 19.XII.**

8.20 „Dziewczyna kłamie" — film fab. 9.55 Dla szkół (kl. lic.) Język polski. 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. V—VI) Język polski. 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze. 13.05 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.45 i 22.55 Politechnika TV II roku. 16.25 i 23.30 Politechnika TV II roku. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla młodych widzów: „Magiczna pałeczka" (II). 17.20 Dla młodych widzów: „Latający Holender na Pacyfiku". 17.50 „Nie tylko dla pań". 18.10 „Kłopoty przewodniczącego" („7 milionów młodych"). 18.25 Telewizyjny Kurier Warszawski. 18.40 „Jesienna melodia" — film radz. 18.50 „Sonda" — teleturniej. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Sukcesy i porażki" — program studencki. 20.35 „Dziewczyna kłamie" — film fab. 22.05 „Festiwal teatrów jednego aktora". 22.35 Dziennik TV.

**SRODA, 20.XII.**

8.25 „Żołnierskie serce" — film fab. radz. 9.55 Dla szkół (kl. VI) Fizyka. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie. 11.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.40 Politechnika. 16.25 i 23.15 Politechnika TV. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: „W bielskiej wytwórni przygód i fantazji". 17.15 Dla dzieci: „Bolek i Lolek na wakacjach" — film. 17.25 „Telekram". 17.35 PKF. 17.45 „Magazyn Medyczny". 18.15 „Opus Jazz" — film pol. 18.30 „Ludzie na drogach" — film jug. 18.45 „Złudzenia miłości" („Sezam muzyczny"). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.00 „Stymulatory życia" — rep. film. 20.15 „Kłopoty z samochodem" — film. 21.00 „Światowid". 21.30 Studio Współczesne: J. Krasicki: „Rocznica ślubu". 22.30 Dziennik TV.

**CZWARTEK, 21.XII.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 23.05 Politechnika TV. 16.25 i 23.40 Politechnika TV. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 „Teleferie" — Uroczyste otwarcie „Teleferii" — „Zima 67/68". 18.05 „Bwana Uganda" — film Tele-Aru. 18.20 „Próby" — miesięcznik konsumenta. 18.45 „Wieczór Wawelski" — koncert. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Dobry wieczór, jak minął dzień". 20.35 „Skrytobójcy" — film fab. NRD. 22.20 „W pracowniach polskich uczonych". 22.45 Dziennik TV.

**PIĄTEK, 22.XII.**

9.00 „Teleferie" — „Piętnastoletni kapitan" — film fab. radz. 10.20 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.05 Politechnika TV. 16.25 i 23.40 Politechnika TV. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.15 Śpiewa i tańczy regionalny zespół Ziemi Bytowskiej. 17.45 „Klub Dobrych Gospodarzy". 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.25 Wszechnica TV: „1918 — początek drogi". 18.55 Śpiewa Maria Kotowska". 19.15 „Dobranoc". 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Czwarta zmiana". 20.40 Teatr TV: A. Swirszczyńska — „Kiedy rzeka była źródłem". 21.55 „Pejzaże". 22.15 „Zderzenia". 22.45 Dziennik IV.

**SOBOTA, 23.XII.**

9.00 „Teleferie": „Od Apeninów do Andów" — film. fab. 10.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 „Trzy dni z życia Wani Siemionowa" — film fab. radz. 16.25 Program Tygodnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Dzień przed wigilijną nocą" („Ula i świat"). 17.20 „Jemina i Johny" — film fab. ang. 17.50 „Gawędy wilków morskich". 18.10 „Spotkania z przyrodą". 18.35 „Zabijaka" — film wg I. Turgieniewa. 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 „Pastorałka". 20.45 Dziennik TV. 21.05 Teatr Rozrywki. 22.20 „Dzwonnik z Notre Dame" — film fab. USA.




**Piątek, 15 grudnia**

13.30 Program dnia. 13.35 Dziennik. 13.40 Film krótkometrażowy. 14.00 Dla uczniów. 14.20 Język angl. dla przedszkolaków. 14.50 Dla dzieci. 15.25 Wiadomości Wiejskie. 15.55 Film TV o Szalapinie 17.20 Dziennik. 17.30 „Drogą ojców — bohaterów". 18.00 Międzynarodowe Zawody w jeździe figurowej na lodzie. 19.30 „Sztafeta nowin". 20.30 Film popularno-naukowy o przyjaciółce Gorkiego — Andrejewej.

**Sobota, 16 grudnia**

6.00 Dla studentów. 8.00 Język ang. dla przedszkolaków. 8.30 Gimnastyka. 9.00 Dla uczniów szkół technicznych. 10.00 „Foma Gordiejew". Film. 12.00 Telewizja barwna. 13.30 „Ja — z 60-tych". Program młodzieżowy. 14.30 Klub Filmowy. 16.20 Kronika Filmowa. 16.30 Dziennik. 17.00 Festiwal Filmów TV. 19.30 Międzynarodowe zawody w jeździe figurowej na lodzie.

**Niedziela, 17 grudnia**

7.55 Program dnia. 8.00 „Budzik". 8.30 Olimpiada astronomiczna dla uczniów. 9.30 „Białe i czarne". 10.00 Program dla uczniów. Transmisja z NRD. 11.05 Podsumowanie konkursu na najlepszy film amatorski o przyjaźni radziecko-polskiej. 12.00 Telewizja barwna. 13.30 Koncert. 14.00 „Kiosk muzyczny". 14.30 Dla żołnierzy. 15.00 „Pieśni — miłość moja". 15.25 „Rycerz rewolucji". O F. Dzierżyńskim. 15.55 Koncert ukraińskich solistów. 16.30 Międzynarodowe zawody w jeździe figurowej na lodzie. 18.30 Dziennik. 18.45 „Listy z wyspy dziwaków". Film. 20.00 „Dobry wieczór sąsiedzi!" Program rozrywkowy. 20.45 „Szkatułka muzyczna".

 

ФАЛЬКЛОР

## КОЛО МЛЫНА

Коло млына, коло млына
Росцвіла каліна.
Задумала в сад гуляті
Молода дiўчына.

Задумала ў сад гуляті
Міжду яблынямі
І почула розговоры
Міжду парынямі.

Батько добры, батько добры,
А маті ліхая.
Нэ пускае ў сад гуляті,
Кажэ молодая.

Пусті ж мэнэ моя маті,
Я доўго нэ буду.
Як запеют пэршы пеўні,
Я ўжэ спаті буду.

Пеют пэршы, пеют другі,
А курка сокочэ.
Клічэ маті вэчэраті,
А дочка нэ хочэ.

Вэчэрай жэ, моя маті,
Колі наварыла.
А для мэнэ молодоі
Вэчэра нэ міла.

Запісаў В. Леанюк
з вёскі Плёскі

## Паўсправядлівыя нараканні

У размовах з працаўнікамі святліц і дамоў культуры ў беларускіх ды змешаных асяроддзях не раз чуюцца нараканні на тэматыку квартальных міжпавятовых семінараў аб культурна-асветнай дзейнасці, што адбываюцца пад кіраўніцтвам працаўнікоў Ваяводскага Дома культуры. Справа ў тым, што на гэтых семінарах не гаворыцца аб метадах і спосабах вядзення культурнай дзейнасці ў нацыянальных асяроддзях. Чуецца найноўшы прыклад, што Ваяводскі Дом культуры (ВДК) безнадзейна зацягнуў выданне мантажа на беларускай мове, падрыхтаванага нашым паэтам Віктарам Шведам. Маўляў, у ВДК якась нічога беларускага не можа паказацца?

Усё гэта праўда і жалі да ВДК справядлівыя. Аднак трэба тут прызнацца і самім да не меншай віны: планы дзейнасці святліц і дамоў культуры амаль цалкам залежаць ад іх кіраўнікоў і працаўнікоў. Чаму тады мы самі нічога беларускага не плануем — і чаму так рэдка зварочваемся за дапамогаю ў ГП Беларускага таварыства? Гэтыя запытанні вельмі на часе, бо якраз апрацоўваецца новыя планы дзейнасці на наступны, 1968 год.

(С.Я.)

## У Беластоцкім тэатры

Новы сезон у беластоцкім тэатры адкрыўся п'есамі савецкіх драматургаў. «Алека Дундзіч» М. Каца і А. Ржэшэўскага, «Варвары» М. Горкага, «Вясельнае падарожжа» Ул. Дыхавічнага, «Аптымістычная трагедыя» У. Вішнеўскага. Сустрэча 50-тай гадавіны Вялікага Кастрычніка. дасканалая. У гэтым святкаванні выдатную ролю адыграў Рускі драматычны тэатр з Гродна, які ў гэтыя дні ўпершыню завітаўшы да нас, сваёй майстэрскай ігрой здабыў беластоцкіх гледачоў. Добра апанаваны акцёрскі варштат усяго калектыву ў спалучэнні з яркімі індывідуальнасцямі, якіх у гродзенцаў аказалася шмат, спрыялі таму, што пастаноўкі Гродна (тры першыя п'есы) доўга застануцца ў нашай памяці. Аднак, калі б мне запрапанавалі выбраць з іх адну, я б без вагання аддаў бы свой голас за «Варвараў». П'есе гэтай ужо звыш 60-ці год. А колькі ў ёй тэм для неспакойных разважанняў аб так званым маральным вобліку сучаснага чалавека. П'еса больш сучасная за іншыя спецыяльна напісаныя на сучасную тэму. Хвалюе і застаўляе думаць.

З неабыякавымі пачуццямі пакідаем тэатр і пасля «Аптымістычнай трагедыі». Невыпадкова зрабіла яна вялікую кар'еру. Убачыўшы свет у Кіеве ў 1933 г., прайшла трыумфальна па ўсіх асноўных напрамках нашай зямлі. Маршруты яе ўсё новыя і новыя. Тым больш, што пераўтвараецца ў розныя абліччы: п'еса, фільм і апошнім часам з'явілася «Аптымістычная трагедыя» — опера. Беластоцкая пастаноўка «Аптымістычнай трагедыі» і гарачы прыём яе нашай публікай, яшчэ адно пацвярджэнне выключнай жыццяздольнасці гэтай ужо класічнай савецкай п'есы пра Кастрычнік.

Ювэ



Сцэна з беластоцкай пастаноўкі «Аптымістычнай трагедыі».

# Сёння і заўтра бельскай культуры

Дзіўнае гэта слова: культура, калі вымаўляе яго дзеяч або палітык. Азначае яно ні менш, ні больш, толькі колькасць святліц, клубаў, бібліятэк і тэлевізараў. Кожнаму вядома, што святліцы і бібліятэкі — гэта яшчэ не ўся культура, што культура — рэч значна шырэйшая. Як, аднак, мерыць прагрэс культуры на вёсцы? У павеце мераюць яго менавіта колькасцю святліц і бібліятэк.

Такім чынам праблема пашырэння культуры на вёсцы зводзіцца ўласціва да праблемы уласцівага, «культурнага» правядзення свабоднага ад працы часу. Мімавольна ўяўляем сабе, што там, дзе ёсць святліцы і бібліятэкі, моладзь і старэйшыя аглядаюць пасля працы тэлевізары, чытаюць кніжкі, менш затым хуліганяць і скандаляць. А гэта ўжо нямала. І таму ўлады імкнуцца да прапагавання і пашырэння гэтай светліцова-клубнай культуры. Паспрабуйма тады паводле гэтага паказчыка — колькасці святліц, клубаў і бібліятэк — паглядзець на Бельскі павет.

Улады рэеструюць, што ва ўсім павеце, не лічачы горада Бельска, ёсць 4 грамадскія святліцы, 23 бібліятэкі, 10 чытальняў і 22 клубы. Пералік гэты павучальны. Сведчыць ён аб тым, што ў палітыцы культуры для вёскі павятовыя ўлады выйшлі з трываўшай да нядаўна бязвыхаднасці. Бо да нядаўна амаль адзінай формай пашырэння культуры на вёсцы былі святліцы. Вясковая моладзь амаль усюды патрабавала ад улад падтрымкі ў пабудове святліцы. Адначасова там, дзе святліцы былі пабудаваны, амаль як правіла, не рабілася нічога, што можна было б назваць «культураю». У будынках вясковых святліц адбываліся найчасцей амаль выключна гучныя, п'яныя «забавы», пасля кожнай такой гульні ў будынку, як след, меншала колькасць цэлых шыбаў. І на гэтым найчасцей канчалася роля вясковых святліц.

На шчасце «светліцовы» перыяд у «культурнай» палітыцы маем, здаецца ужо за сабою. На Бельшчыне дзейнічае ўсяго 4 грамадскія святліцы, маем надзею, што дзейнічаюць яны ў сапраўднасці. Затым культурнымі цэнтрамі бельскай вёскі з'яўляюцца бібліятэкі, якія распараджаюцца такім рэальным і істотным інструментам уплыву на вясковае насельніцтва, як кніжка, а таксама клубы з кіёскамі ўнутры, з каваю, газетамі і г.д. Шкада толькі, што вясковыя бібліятэкі маюць малыя магчымасці развівання больш шырокай культурнай дзейнасці, чымсьці пазычанне чытачам кніжак. Аж 17 бібліятэк месціцца ў памяшканнях гаспадароў нанятых мясцовымі ўладамі для патрэб бібліятэкі. Найчасцей няма тут аніякіх умоў для таго, каб чытач мог не толькі пазычыць кніжку, але і перагледзець яе на месцы, каб мог пацікавіцца часопісам, або газетаю. Памяшканні найчасцей зацесныя, недахоп асноўнай мэблі — крэслаў ці столікаў, у многіх бібліятэках няма такіх патрэбных зараз да культурнай працы прылад, як тэлевізар, магнітафон, ці нават радыёпрыёмнік.

У гэтай сітуацыі крыху дзіўным з'яўляецца факт, што ў Бельскім павеце ёсць 14 будынкаў т. зв. «святліц», над якімі няма аніякага гаспадара і ў якіх не дзеецца нічога апрача п'яных гульняў некалькі разоў у год. Ці ў будынках гэтых не маглі б размясціцца хаця б вясковыя бібліятэкі?

У планах Аддзела асветы і культуры ПРН асаблівы націск кладзецца на стваранне як найбольшых магчымасцей поўнага выкарыстання сродкаў масавага пераказу культурных вартасцей, як тэлевізія, радыё, фільм, друк, кніжка, а таксама на неабходнасці творчага і актыўнага ўспрымання пераказваемага гэтымі сродкамі зместу.

Пастулат як найбольш слушны. Сумненні родзяцца толькі тады, калі разыходзіцца аб сродкі, якімі павятовыя ўлады будуць яго рэалізаваць. Бо што можна зрабіць, каб аглядание сялянамі тэлевізара было не толькі агляданнем, але да таго атляданнем творчым і актыўным? Здаецца, што ў павеце ніхто гэтага толкам не ведае. Ды не толькі ў павеце. Не ведаю, ці хтосьці на свеце ўвогуле знайшоў на гэта спосаб. Планы ўладаў не выходзяць далёка паза звычайныя заўсёды і ўсюды слушныя пастулаты: «пашырыць», «узмоцніць», «пабольшыць» і г.д.

Ёсць аднак у планах бельскіх улад ад культуры адна вельмі карысная і істотная ініцыятыва, годная шырокага распаўсюджвання — заснаванне Рэгіянальнага музея бельскай зямлі. Вядома, ініцыятыва гэта нялёгкая, пры заангажаванні аднак усіх установ падпарадкаваных Аддзелу асветы і культуры павятовай рады — ініцыятыва гэтая — поўнасцю рэальная.

Ул. Паўлючук

БЕЛАРУСІЯНА

## МІЦКЕВІЧ І БЕЛАРУСКІ НАРОД

«Міцкевіч і беларускі народ» — так менавіта можна было б акрэсліць змест кнігі выдадзенай пад рэдакцыяй прафесара Кшыжаноўскага пад загалоўкам «Ludowość u Mickiewicza». Сцверджанне гэтае не адлюстроўвае аднак усяго таго, што можна вычытаць у гэтай надзвычай цікавай працы. Бо ў кругу філаматаў — сяброў Адама Міцкевіча, якія спявалі, размаўлялі і пісалі вершы на беларускай мове, радзілася не толькі рамантычная паэзія, радзіўся не толькі Адам Міцкевіч — вялікі нацыянальны польскі паэт, радзілася тут таксама ідэя польскай нацыі — супольнасці, якая аб'ядноўвала ўсіх яе жыхараў, якая ўключала культуру ўсіх яе слаёў і этнічных груп.

У народнай беларускай літаратуры шукалі яны апоры для вялікіх нацыянальных ідэй. Беларуская народная літаратура была першаўзорам і інспірацыяй для вялікіх твораў Міцкевіча і яго сяброў.

Не будзем пералічаць усіх адкрыццяў зробленых аўтарамі гэтай кнігі. Трэба яе прачытаць. Абмяжуемся да прывядзення верша, якім Ян Чачот вітаў на філамацкай урачыстасці свайго вялікага сябра Адама Міцкевіча. Вось яго пачатак:

**«Едзеш, міленькі Адам,**
**Глядзеце, а онь, і онь,**
**Ды ён харашэнькі сам,**
**Под нім вараненькі конь,**
**Залатом пояс зяя**
**Аж ад блеску сніг тая.**
**На шапцы сівы баран,**
**Хто бы думаў, што ён пан».**

(п)

(Працяг са стар. 1)

## Аптымістычны фельетон

**Голас чытача:** — Пайшла я ў бібліятэку, бо люблю чытаць. Бібліятэкарка нагаварыла мяне на беларускую — «Подых навальніцы». Ад гэтай кніжкі да таго спадабалася мне беларуская мова, што сказала сваёй дочцы, каб запісалася на прадмет беларускай мовы ў школе.

Гэта пацвярджэнне якасці тамтога, здавалася б, мізэрнага ліку чытачоў кніжак на беларускай мове.

**Голас чытача:** — У нашай бібліятэцы выпаўнілі 83 купоны.

Гутарка тут аб купонах беларускага чытальніцкага конкурсу. Сёлета ў гэтым конкурсе ўдзельнічала **каля тысячы сто** асоб — пару год таму назад у такім жа конкурсе ўдзельнічала раптам... **дзесяць** асоб.

Праўда, якія фантастычныя параўнанні!?

**Голас чытача:** — Асноўнага чытача кніжкі на беларускай мове рыхтуюць нам вясковыя школы, у якіх навучаецца прадмет беларускай мовы.

Во, во, рацыя! Можна і трэба тут здзівіцца, каму лёс навучання беларускай мовы залежны ад ласкаў-няласкаў каламутнай часткі бацькоў? Чаму, чаму?? Высокі начальнік у Варшаве сказаў, што без беларусчыны нельга ўявіць сабе культурна-асветнай дзейнасці ў беларускіх і змешаных асяроддзях. А меншы начальнік сказаў, таксама цалкам слушна, што падставай культурна-асветнай дзейнасці, адукацыі, з'яўляецца кніжка — чытанне кніжкі, у даным выпадку, беларускай.

**Чытанне беларускай кніжкі** — пішу гэтыя тры словы ад пачатку, каб усе заўважылі іх.

С. Яновіч



 

 

## АСВЕТНА - ПАЛІТЫЧНЫЯ КУРСЫ

22 асветна-палітычныя курсы дзейнічае ў гэтым годзе пры колах ЗМВ у Бельскім павеце. Праца курсаў пачалася тэмай найбольш актуальнай: «50 гадоў новай эпохі». Апрача таго на курсах ЗМВ у гэтым годзе праводзяцца заняткі па абароннасці краіны, а ў другой палавіне года адбудуцца заняткі з праблем павышэння сельскагаспадарчай прадукцыі. (п)

# ПАТРЭБЫ „БАГНА ТЫНЕВІЧЫ"

Не зацікаўленаму выдавалася б, што меліярацыйныя равы, якія выкапана на тыневіцкіх балотах, гэта ўжо ўсё. Аказваецца, што інвестыцыям не канец. Не можа быць канец перш за ўсё таму, што засеяныя тут лугі ў час вегетацыі маюць малавата вады. Таму неабходна **пабудаваць станцыю помпаў, якая б цягнула ваду з Нарвы** на лугі, дзе выступае яе недахоп. Гэтая інвестыцыя складзе каля 6 мільёнаў зл.

Зараз меліярацыйны аб'ект «Багна Тыневічы» мае 104 будоўлі, г. зн. запрудаў і т. п. Але ёсць патрэба пабудаваць далейшых 8 дзеравянных запрудаў, якія будуць служыць уздыманню вады і арашанню лугоў. У сувязі з тым, што некаторыя равы пазарасталі, існуе патрэба дадаткова выкапаць 7 км равоў коштам 420 тыс. зл.

Апрача таго нанава трэба загаспадараваць 20 гектараў лугоў. Былі яны загаспадараванымі ў 1954 г. і зараз вельмі мала выдайныя ў колькасным і якасным сэнсе. Кошт гэтага мерапрыемства складзе 800 тыс зл.

Дзеля поўнага загаспадаравання «Багна» неабходна, каб тамтэйшыя гаспадары падумалі і правялі дарогу, якая будзе спалучаць Кленікі з Гародчынам. (А.К.)



**Парцаўскія дзяўчаты: (злева) Марыся Юрчук, Люба Артэмюк, Каця Мойсік (спераду сядзіць) Вера Скарка.**
**Фота: В. Рудчык**

# КОЛЬКІ НАС ЁСЦЬ

Пытанне, колькі ёсць беларусаў на Беласточчыне, ставіцца ад моманту заснавання БГКТ, але заўсёды аставалася без адказу або пачыналася «Згадуй-згадуля». Чытачы скажуць, што гэтага яшчэ не хапала, каб людзей нельга было палічыць! У сапраўднасці палічыць гэтага насельніцтва немагчыма з увагі на шматлікія супярэчнасці, у першую чаргу, паміж самаакрэсленнем самога насельніцтва і навуковымі данымі. Мясцовае беларускае насельніцтва ў сілу своеасаблівых гістарычна-эканамічных абставін навучылася падыходзіць да нацыянальнага самаакрэслення, як да тавару, і ў залежнасці ад каньюнктуры адзін раз лічыць сябе беларусам, другі ізноў — палякам.

Аднак у практычнай дзейнасці БГКТ трэба хоць прыблізна ведаць яго размяшчэнне і агульны лік. Адразу насоўваецца пытанне, якія браць пад увагу крытэрыі ацэнкі нацыянальнай прыналежнасці. На Беласточчыне прынялося за падставу прыймаць веравызнанне, стварыўся нават недарэчны міф аб польскай рэлігіі — каталіцызме і рускай — праваслаўнай. Паводле гэтага падзелу ўсё вырашаецца вельмі проста: Бельшчына і ўсх. Сакольшчына — гэта беларусы, а зах. Сакольшчына — гэта ўжо палякі, а тыя, хто паміж адной статыстыкай і другой змяніў веравызнанне, або проста надумаўся акрэсліць сябе ў нацыянальнай прыналежнасці інакш, ужо адпадае на карысць іншай нацыянальнасці.

Усё тэта не мае нічога супольнага з сапраўдна навуковым падыходам да праблемы. Таму ў далейшых разважаннях за падставу нацыянальнай прыналежнасці будзем браць крытэрыі археалагічнага акрэслення насельніцтва да яго першабытных культур, этнаграфічную прыналежнасць, ужыванне мовы ў штодзённым жыцці і, каб зусім не ігнараваць пачуцця насельніцтва, часткова яго самаакрэсленне. Для цікавасці падаем, што паводле першага перапісу насельніцтва ад 14.II.1946 г., праведзенага непасрэдна пасля заканчэння рэпатрыяцыі, у Беластоцкім ваяводстве пражывала 116517 асоб няпольскай нацыянальнасці, у тым, відавочна, толькі каля 10 тыс. літоўцаў, рускіх, яўрэяў і іншых. Чарговыя перапісы насельніцтва нацыянальнасці ўжо не выказваюць. У публікацыях пачалі ўжывацца «шацунковыя» даныя, паводле якіх лік беларусаў акрэсліваўся ад 130 тысяч (B. Bakun i inni... Woj. Białostockie, 1957) да 200 тысяч (Беларускі каляндар, 1959; Polityka Nr 50/65, і іншыя).

Ці нельга крыху дакладней акрэсліць ліку беларускага насельніцтва? Несумненна, можна пад умовай прыняцця вышэй успомненых агульнавядомых у навуцы крытэрыяў.

Карыстаючыся імі праф. Віленскага універсітэта, ураджэнец Бельска Е. Ярашэвіч яшчэ ў 1844 годзе ў кніжцы «Obraz Litwy...» стар. 206, а пасля яго і іншыя вучоныя — акрэсліў этнічную граніцу на поўдні Беластоцкага ваяв. паміж Драгічынам і Сямяцічамі (штопраўда яна праходзіць крыху на захад ад гэтых гарадоў) пасля моцна пакрыўлена — праз Верцень — Гродзіск — Якубоўск — Свірыды—Страблю, далей па простай лініі на Харошчу (трэба было па р. Нарва), потым на захад ад Кнышына і на ўсход ад г. Монькі ў напрамку Далістова. Апошнія доследы Е. Вісьнеўскага дазваляюць правесці яе далей па Аўгустоўскаму каналу праз цэнтр аднаіменнай пушчы ў басейн р. Марыха пад Сейны і адтуль да дзяржаўнай граніцы з БССР.

«Rocznik statystyczny woj. białostockiego 1964 г.» падае даныя для кожнай грамадскай рады нарадовай. Тады не цяжка палічыць, што ў вёсках на этнічна-беларускай тэрыторыі пражывала ў канцы 1964 года 321,6 тысячы асоб, а ў гарадах гэтай жа тэрыторыі 195,7 тысячы асоб. Разам — 517,3 тысячы жыхараў.

Дагэтуль з падлікамі ўсё ішло лёгка. Але на ўспамянутай тэрыторыі жывуць таксама і іншыя нацыянальнасці: палякі, рускія, яўрэі, татары, літоўцы. І калі ў навуковай літаратуры нацыянальная прыналежнасць вясковага насельніцтва ў агульных рысах вядома, то даных аб насельніцтве гарадоў у апошні пасляваенны перыяд няма зусім. Прынялося толькі ў паўафіцыйных статыстыках, што ў Беластоку беларусы складаюць 30% яго насельніцтва г. зн. каля 40000 асоб, у Гайнаўцы і Бельску — па 50%, а для іншых гарадоў няма нават прыблізных лікаў. Аўтар артыкула таму засцерагаецца, што ў агульным акрэсленні ліку беларускага насельніцтва могуць дапускацца недакладнасці парадку 10—20 тысяч асоб. Прывядзем табліцу па паветах:

| № | Павет | Агульны лік насельніцтва | у тым на этніч. бел. тэрыторыі у ГРН | у гарадах | беларускага насельніцтва |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Бельскі | 73 587 | 37 299 | 12 169 | 41 000 |
| 2. | Беластоцкі | 93 987 | 67 648 | 16 437 | 77 000 |
| 3. | г. Беласток | 136 359 | — | 136 359 | 40 000 |
| 4. | Гайнаўскі | 59 561 | 45 744 | 13 817 | 52 000 |
| 5. | Дуброўскі | 35 503 | 35 503 | — | 33 000 |
| 6. | Лапскі | 36 831 | 9 761 | 1.136 | 8 000 |
| 7. | Манецкі | 50 889 | 21 663 | — | 18 000 |
| 8. | Сакольскі | 60 895 | 52 569 | 8 326 | 57 000 |
| 9. | Сямяціцкі | 74 404 | 41 641 | 7 476 | 43 000 |
| 10. | Аўгустоўскі | 46 998 | 8 857 | — | 6 000 |
| 11. | Сейненскі | 22 112 | 1 000 | — | 1 000 |
| | Разам | 687 126 | 321 685 | 195 714 | 376 000 |

З табліцы вынікае, што ў 1964 годзе ў дзесяці паветах і ваяводскім цэнтры — Беластоку разам пражывала 687 тысяч насельніцтва, у тым ліку 376 000 этнічна беларускага, частка якога згодна з самаакрэсленнем не залічвае сябе да гэтай групы.

**Ул. Юзвюк**

# Стонка і курапаткі

Пераканаліся мы ўжо аж занадта, што стонка — гэта не выдумка «ужэндністаў». Адзін гаспадар у Крынках паказваў мне сваё бульбяное поле, якое было аж рыжае ад вялікай масы стонкі на бульбе. Потым гаварылі мне ў Беластоцкім ВЗГС «Самапомачы» аб падвоенай, нават патроенай барацьбе са стонкаю, аб чым мелі сведчыць тоны распраданых гаспадарам розных хімікатаў да барацьбы супроць гэтага страшнага маленькага каларадскага жука. Аказваецца, аднак, што стонка нічуць не ўступае з заваяваных ёю бульбянішчаў. Нядаўна прачытаў я ў адным з часопісаў інфармацыю, што ў пачатку нашага веку стонка да таго вынішчыла бульбяныя, і не толькі бульбяныя, палі Паўночнай Амерыкі, што пагражала катастрофа амерыканскай сельскай гаспадарцы. Велізарныя масы стонкі паявіліся на вуліцах Нью-Йорка, машыны слізгаліся і выварочваліся, не маглі ехаць трамваі — надушаная на трамвайных рэйках стонка была як мазь, па якой немагчыма было ехаць, слізгаліся колы. Амерыка перажыла свой вялікі страх перад гэтым маленькім жучком.

Так адпомсцілася прырода за тое, што не лічацца з ёю. Вучоныя даўно заўважылі, што лепшым ратункам ад стонкі з'яўляюцца, між іншым, нашыя шэрыя курапаткі — і фазаны. Напрыклад, у Чэхаславакіі паважна абмежавана «стончын рабунак», забараняючы паляванняў на курапаткі. У Беластоцкай Лізе аховы прыроды расказалі мне пра аднаго гаспадара, які трымаў на сваім палетку парачку фазаноў. Гэтыя фазаны поўнасцю, так сказаць, павыядалі стонку, ратуючы ад пагібелі палетак бульбы.

Жмені гэтых вестак варта ведаць з надыходам зімы, калі чароды курапатак шукаюць ратунку ад галоднай смерці ў марозных снягах. Бягуць яны да нашых будынкаў, і будзьма для іх людзьмі — і сябрамі. Гэта аплаціцца.

(С. Я.)

# НАСТАЎНІЦКІЯ ПАМЯШКАННІ

Сітуацыя з памяшканнямі для настаўнікаў на вёсках Беласточчыны невясёлая. Рэформа школьніцтва зрабіла аграмаднае запатрабаванне на новыя памяшканні для школ, і гэта не толькі ў сэнсе класа-кабінетаў ці нават класаў, але памяшканняў для новых настаўнікаў. Справу пагоршвае факт, што аднолькава выступаюць цяжкасці нават у тых мясцовасцях, дзе пабудавана новыя школы. Справа ў тым, што будаўніцтвам памяшканняў для настаўнікаў на вёсцы дагэтуль амаль ніхто не займаўся. Паводле слоў міністра Г. Яблонскага найчасцей бывала так: з Варшавы ішлі ўказанні, каб разам з будовай новай школы праводзілася будова памяшканняў для настаўнікаў, а мясцовыя ўлады гэтыя ўказанні праміналі і гэтым коштам хацелі будаваць большую колькасць школьных памяшканняў. На колькі гэта было дрэнным вырашэннем справы адчуваем зараз, калі пачынаем змагацца за якасць навучання. Зараз ведаем, што добры настаўнік - спецыяліст шукае такога месца працы, дзе ёсць памяшканне. Другой істотнай справай у праблеме памяшканняў для настаўнікаў ёсць тое, што ўсё больш настаўнікаў стаецца сямейнымі, а гэта патрабуе «сямейнага кутка».

З асаблівай вострасцю гэтыя справы выступаюць здаецца на Сакольшчыне таму, што гэты павет мае найменш развітую камунікацыю між паасобнымі вёскамі, а гарадскімі цэнтрамі. Не цяжка, напрыклад, уявіць сабе лёс маладога настаўніка, які мае сям'ю, і якому прышлося б працаваць у **Нетупе, Раздранцы ці Бабіках.** Не хачу сказаць, што тут ніхто не працуе. Наадварот, адважуся сказаць, што тут працуюць найбольш ахвярныя людзі, якія ставяць на першым месцы агульныя ідэалы, не зважаючы на асабістае жыццё, кватэру, выгады.

Каб неяк справы настаўніцкіх памяшканняў пачаць генеральна ўладжваць, сакольскія ўлады апрацавалі план пабудовы памяшканняў настаўнікам да 1970 года. Іменна плануецца пабудову памяшканняў у вышэй паказаных трох мясцовасцях. Безумоўна, пабудова будзе праводзіцца пры фінансавай дапамозе са сродкаў Грамадскага фонду пабудовы школ і інтэрнатаў.

Але справа будовы настаўніцкіх памяшканняў на Сакольшчыне здаецца мець, калі можна сказаць, традыцыю. Возьмем, напрыклад, **Забродзе,** што ля Карыціна. Мясцовасць вялікая, школа сямікласная, зараз васьмі. Працуе тут аж 6 настаўнікаў, а памяшкальныя ўмовы педагогаў амаль крытычныя. З ініцыятывай пабудовы памяшканняў настаўнікам выступіў кіраўнік тамтэйшай школы **Эдмунд Талярчык** 2 гады таму назад. Безумоўна, з ініцыятывай выступіў да бацькоў, тады яшчэ ўлады не маглі абяцаць фінансавай дапамогі. Бацькі самаападаткаваліся, шмат працы выканалі (і выконваюць) грамадскім чынам. І так, мясцовы ўклад склаў лік 200 тысяч злотых. Зараз Забродзе атрымала 150 тысяч зл. з Грамадскага фонду, і такім чынам у хуткім часе Забродзе, да якога ніхто з настаўнікаў не хацеў ісці працаваць з памяшкальных прычын, будзе мець памяшканні для настаўнікаў на 3 сям'і.

Не выпадкова прышлося сказаць вышэй, што пабудова настаўніцкіх памяшканняў сталася традыцыяй. Іменна, нехто іншы як толькі настаўнікі былі ініцыятарамі стварэння ў Саколцы «Мешканёвай спулдзельні». А 4 гады таму назад (калі арганізавалася спулдзельня) справа не ішла так лёгка. Не хапала адпаведнай колькасці членаў, настаўнікаў патрабуючых памяшканняў у Саколцы не так ужо і многа. Але настаўнікі нягледзячы на цяжкасці стварылі Праўленне спулдзельні і пачалі дзейнічаць. Вытрымалі ўсё, нават суперцяжкасці фінансавага характару, таму што пазык на ўклады не было адкуль браць, а заработкі настаўнікаў наогул вядомыя, каб зрабіць яшчэ ашчаднасці. Зараз маюць ужо вынікі: каля 20 настаўніцкіх сем'яў жыве ў 3 новапубаваных спулдзельчых блёках. У 1968 годзе пачнецца пабудова новага спулдзельчага блёку ў квартале «Зялёнэ».

Напэўна ёсць яшчэ і ў самой Саколцы нявырашаныя справы настаўніцкіх кватэр, але генеральна беручы дзякуючы ахвярнай і самаадданай працы настаўніцкага актыву ўдалося сарганізаваць і ўключыць мясцовае насельніцтва да так істотнай праблемы, як памяшканні. Прыведзеныя прыклады кажуць меркаваць, што так запланаваныя пабудовы памяшканняў, як і іншыя, будуць будавацца ў прадбачаным часе і з вялікай дапамогай мясцовага насельніцтва. Без дапамогі насельніцтва нават найвялікшая фінансавая дапамога дзяржавы можа быць бескарыснай.

**Аляксей Карпюк**



 

# 22 ГАДЫ РАДНЫМ

Аляксандр Засім з Тарнопаля працуе ў радах нарадовых ужо 22 гады. Пасля вызвалення Беласточчыны ад нямецкіх захопнікаў Засіму, якаднаму з актыўнейшых радных гміны, прышлося арганізаваць сялянскую самапомач у Нараўцы, якой быў ён праз нейкі час прэзасам. Зараз Аляксандр Засім з'яўляецца грамадскім намеснікам старшыні ГРН у Семяноўцы. Часта яго можна сустрэць у памяшканні прэзідыума. Цікавіцца ён усімі праблемамі грамады.

Будучы ў Семяноўцы, завялі мы з ім гутарку аб рамесных паслугах. Як сцвярджае намеснік старшыні ГРН — дык з кравецкімі, сталярскімі, шавецкімі і кавальскімі паслугамі няма ніякіх цяжкасцей. Хапае на тэрыторыі грамады людзей, якія займаюцца гэтым рамяством. Але вось, калі трэба выправіць скуры на кажух, дык тут ужо няма дзе.

Гэтак сама і з рамонтам радыёпрыёмнікаў ці тэлевізараў. Трэба іх везці аж у далёкую Гайнаўку і чакаць некалькі месяцаў.

Няма ў вёсках таксама цырульнікаў. Стрыгуць людзей аматары, а вельмі прыгадзілася б спецыяльная цырульня, якая працавала б у акрэсленых гадзінах.

«— У нашыя вясковыя крамы ГС у Нараўцы прывозіць хлеб, — гаворыць Аляксандр Засім. — Але яго заўсёды хутка раскупоўваюць. Ніколі няма дастаткова печанага хлеба. А на пячэнне хлеба для кожнай сям'і трэба і многа часу і многа дроў. Прыгадзілася б, каб у Нараўцы была вялікая пякарня, якая забяспечвала б поўнасцю сялян хлебам».

Аляксандр Засім карыстаецца вялікім аўтарытэтам у сваёй роднай вёсцы Тарнопаль. Аднавяскоўцы выбралі яго начальнікам сваё вёскі, гэта значыць выбралі яго солтысам. Як функцыю раднага, так і функцыю солтыса Аляксандр Засім выконвае належна.

**М. Хмялеўскі**




ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VI КЛ.

### ЛАПЦІ

Кажуць, чалавек запамінае тое, што яму трэба памятаць. Можа і праўда. Але ж бывае і так: не хочаш памятаць, а яно само прыгадваецца. Даўно адышлі ў нябыт лапці, а сёлетняй зімой яны прыпомніліся мне зноў. Ды так яскрава, так выразна, нібы ўчора гэта было са мною.

...Бацька, прыехаўшы ў нядзелю з кірмаша, не прывёз нам той раз ні па абаранку, ці цукеркаў. Замісць гасцінца ён падаў пучок ліпавых лутkоў* і сказаў:

— Нясіце ў хату.

Мы пераглянуліся з братам і панеслі пучок: я за вяршкі, ён за камлі. Ліпкі былі немаладзенькія, бо луткі ўпіраліся аж у столь, калі мы паставілі іх у кутку.

Следам за намі, распрогшы каня, зайшоў бацька. Ён тупаў па хаце, а мы сядзелі на палку каля печы, сачылі за кожным яго рухам і з нецярплівасцю чакалі, калі ён пачне даставаць з кішэні гасцінцы. Так вялося ў сям'і. кожны раз, як бацька ездзіў на кірмаш, мы, дзеці, з абеду ўжо выбягалі на вуліцу глядзець, ці не едзе ён назад. І той, хто першы заўважыў нашага лысага каня, адчыняў весніцы. Седзячы на возе, бацька дзякаваў і даваў за «паслугу» цукерку ці абаранчак. У хаце гасцінец быў для ўсіх аднолькавы.

На гэты раз нешта доўга бацька не

# СЯРОД НАС ГОСЦІ З ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Нядаўна пабывала на Беласточчыне дэлегацыя прадстаўнікоў культурных устаноў з Гродна. Супрацоўніцтва між Беласточчынай і суседняй Гродзенскай вобласцю штораз мацнейшае і відавочнае ў розных галінах жыцця. Дэлегацыю, аб якой мы ўспомнілі, узначальваў **Мікалай Собаль, дырэктар Гродзенскага музея.** У склад яе ўваходзілі: **Зіна Артуховіч і Уладзімір Жыгалаў старшыя метадысты Дома народнай творчасці.** Дэлегацыя наведала Беласточчыну ў сувязі з традыцыйным ужо культурным абменам. Госці прывезлі ў Беласток **выстаўку народнай творчасці** сваёй вобласці.

Але не толькі цікавілі нашых суседзяў справы музейныя. Праграма пабыўкі прадбачвала наведанне многіх іншых культурных і прамысловых цэнтраў Беласточчыны. Адным з пунктаў праграмы быў візіт у Галоўным праўленні БГКТ. Гасцей суправаджаў **намеснік кіраўніка КВ ПАРП Васіль Гулько,** ваяводскі кансерватар **Уладзімір Паўлючук** і дырэктар акруговага музея **Зофія Сакалоўская.** Перш за ўсё госці сустрэліся з удзельнікамі і арганізатарамі вялікага чытальніцкага конкурсу беларускай кніжкі. Адразу ж між прысутнымі і гасцьмі завязалася сардэчная размова, якая менавіта датычыла культурна-асветнай дзейнасці і яшчэ цяснейшага супрацоўніцтва. Бібліятэкары, напрыклад, гаварылі, што быў бы вельмі карысным абмен вопытам з бібліятэкарамі Гродзеншчыны, калі разыходзіцца аб пашырэнне чытальніцтва, а больш усяго пашырэнне формы працы з чытачом беларускай кніжкі. **Да прысутных звярнулася Зіна Артуховіч, якая сказала, што Гродзенскі дом народнай творчасці ахвотна прыйдзе з дапамогай сябрам пражываючым у Польшчы.** Перад усім, шмат ёсць там матэрыялаў рэпертуарнага характару, які пры арганізацыі рознага тыпу вечарын здаецца быць неабходным. З. Артуховіч заявіла, што **паасобныя нашыя культурныя ўстановы і гурткі могуць у справах рэпертуару,** ды і не толькі, **звяртацца непасрэдна да Дырэкцыі Дома народнай творчасці ў Гродне.**

Затым госці з удзельнікамі конкурсу пабывалі на канцэрце эстрады «Лявоніха». Канцэрт зрэарганізаванай нашай «Лявоніхі» спадабаўся, а асабліва беларускія народныя песні ў выкананні М. Мароз, Я. Блізнюка і Ю. Шурбака. Пасля гэтага адбылася сустрэча гродзенскіх гасцей з кіраўніцтвам Галоўнага праўлення БГКТ. Дыскутавалі над справамі двухбаковага супрацоўніцтва, а перад усім над справамі звязанымі з дапамогай беларускаму аматарскаму руху на Беласточчыне. БГКТ прадстаўлялі **сакратар ГП Уладзімір Юзвюк і член Прэзідыума ГП, галоўны рэдактар «Нівы» Георгі Валкавыцкі.**

**А. Карпюк**

фота аўтара



**Гродзенскія госці на сустрэчы ў Галоўным праўленні БГКТ.**



**На канцэрце «Лявоніхі».**

# АБ КРЫНКАХ І ІНШЫХ...

У Беластоцкім Музеі рэвалюцыйнага руху існуе пастаянная выстаўка пад назваю — **«Гісторыя беластоцкага рэвалюцыйнага руху».** Гэта выстаўка заслугоўвае вялікай увагі. Яна проста надта цікавая.

Можна тут пабачыць тайныя дакументы царскай жандармерыі з мінулага стагоддзя адносна рабочага руху ў **Крынках, Супраслі, Гарадку, Беластоку.** Экспануецца арыгінальныя экземпляры рабочых падпольных і легальных газет, у якіх пішацца аб падзеях у паасобных мясцовасцях Беласточчыны — імёны і прозвішчы мясцовых рабочых дзеячоў і актывістаў.

Знаходзяцца тут арыгінальныя выданні КПЗБ, а таксама пісьмы і грыпсы. Багата паказана гісторыя руху супраціўлення на Беласточчыне з бандамі ў пасляваенны час.

(ся)

# АБАРОНА ПЕРАД ПАЖАРАМІ

Адным з паветаў, дзе ваяваць пажарнікам з агнём вельмі цяжка, з'яўляецца Гайнаўшчына. А ваяваць цяжка перш за ўсё таму, што ў выпадку пажару ў 46 вёсках няма вады для пажарных, а 51 вёска адчувае недахоп. Іншай справай, якая адыгрывае вялікую ролю, гэта тэлефонная сувязь. Трэба адзначыць, што і ў гэтым напрамку трэба многа яшчэ зрабіць. Толькі ў 36 вёсках тэлефоны падключаны праз цэлыя суткі, а 59 — толькі ў вызначаных гадзінах. Не ўспамінаючы аб вёсках, якія наогул не маюць тэлефанічнага спалучэння, трэба сказаць, што тэлефоны, якія працуюць толькі ў вызначаных гадзінах, прыносяць палавінчатую развязку, таму што пажары і іншыя выпадкі на вёсцы адбываюцца не толькі ў вызначаныя гадзіны, але, напрыклад, пажары часцей за ўсё вечарам ці ноччу.

Каб гэтыя справы ўнармаваць, у Гайнаўскім апрацавана план супрацьпажарнай бяспекі. У вельмі канкрэтны спосаб удакладняе ён выкананне многіх заданняў. Апрача вышэй успомненых, прадбачваецца арганізацыю да 1970 года 26 новых пажарніцкіх дружын, што ў параўнанні да 43 на канец 1965 г. з'яўляецца лікам вялікім. Пажарныя з **Дубіч Царкоўных, Ласінкі, Палічнай і Кленікаў** атрымаюць пажарныя прылады і будуць поўнасцю матарызаванымі.

Малая колькасць пажарных дружын вынікае і з таго, што абсалютна не вялося працы па гэтай лініі з маладымі. Не менш істотнай справай з'яўляецца арганізацыя жаночых пажарных дружын. Кожны, хто быў пры пажары на вёсцы, мог назіраць заангажаваных пры гашэнні пераважна мужчын. А тым часам аказваецца, што жанчыны маюць у такіх выпадках больш халоднай крыві і могуць адыграць вялікую ролю пры пагашэнні пажару ці ратаванні людзей, жывёлы і маёмасці. Іменна таму ў Гайнаўскім прадбачваецца павелічэнне маладзёжных і жаночых дружын з 5 на 27.

План прадбачвае пабудову 12 штучных вадасховішчаў, 5 водаправодаў, 10 сервіровак на равах і інш. Апрача таго гайнаўскім пажарнікам прыбудзе 6 самаходаў і каля 30 высокавыдайных мотапомпаў.

Рэалізацыя плана ўжо пачалася і трэба спадзявацца, што палепшыць яна супрацьпажарную бяспеку перад усім вёсак.

(А.К.)

# КАБ ХУТЧЭЙ...

Вёска Рагачы сустракае падарожніка сваім гасцінна шырокім пляцам. Дзве вуліцы, як дзве рукі дружбака, раскрылі свае абдымкі насустрач прыбываючаму з дарогі. І якраз пасярэдзіне гэтага пляца я ўбачыла заліты нядаўна фундамент і рассцеленыя па зямлі пустакі.

— Прыехалі на нашу работу паглядзець? — пачула я голас у сябе за плячыма. Маім размоўцам аказаўся вясёлы дзядок. — Тут некалі стаяла царская школа. Яе нават потым рамантаваць збіраліся, але яна не вытрымала, развалілася.

— Што гэта ў вас тут будуецца? — пытаюся.

— А то нашы хлопцы рамізу сабе будуюць. Самі фундамент ужо залілі і пустакаў нарабілі. Мой сын таксама да стражы належыць. А вунь і ён едзе. Вы з ім пагаварыце, ён вам раскажа.

Пад'ехаў на веласіпедзе малады хлапец. Даведаўшыся, аб чым мы гаворым, сказаў:

— Ведаеце, у нас і мастацкі калектыў ёсць, ставім п'есы, ездзім па вёсках, а вось у сваёй вёсцы выступіць не можам. Няма дзе. Няма ні святліцы, ні клуба ніякага. Надумаліся збудаваць рамізу грамадскім чынам. А павятовая камэнда пажарных згадзілася памагчы. Што далі рады самі рабіць, зрабілі. Цяпер чакаем дапамогі. Мелі мы пару тысяч злотых, якія зарабілі ў час канцэртаў, таксама ўлажылі ў будову рамізы.

— Вы іх там, у павеце, папрасіце добра, каб нам хутчэй згадзіліся дапамагаць, — умешваецца зноў дзядуля. — То ж вы паглядзіце самі, як добра ўсё зроблена. А зіма настае. Мароз многа шкоды наробіць. Каб хоць прыкрыць чым...

Згаджаюся поўнасцю з маімі размоўцамі і далучаюся да іх просьбы. У Рагачах сапраўды патрэбны хоць нейкі куток для моладзі, а пажарная каманда — гэта па сваім складзе той жа драмгурток, тыя ж людзі, аб'яднаныя агульнымі зацікаўленнямі, агульным імкненнем неяк упрыгожыць, зрабіць больш разнастайным і цікавым сваё вясковае жыццё.

**Яніна Чэрнякевіч**



частаваў нас ласункамі, ён размаўляў з мамай, а мы ўсе трое пераглядаліся. Нарэшце старэйшы брат не выцерпеў і сказаў:

— Тата, а нашто вы гэтыя дубцы прывезлі?

— Гэта не дубцы, сынок, а лыка. Твайму бацьку і вам на абутак.

Цяпер мы зразумелі: гасцінца не будзе, бо на тыя трошы тата ўзяў лыка.

Назаўтра раніцай, ад'язджаючы ў заработкі, тата скруціў тры лусточкі ў вялікія кольцы і сказаў маме:

— Не забудзься ж, Аленка, намачыць лыка пасля абеду. Вечарам спляту ім лапці, — зірнуў ён на нас, — а то ўсю зіму ў хаце сядзяць без абутку.

Мама не забылася, мы ёй напомнілі самі, яшчэ нават перад абедам.

Увечары мне першаму былі сплецены ўдалыя лапці. Да чаго ж я радаваўся!

— Вышэйшы гатунак, — падміргнуў мне бацька, падаючы лапці для прымеркі.

Я памераў на босую нагу, заставаўся яшчэ ладны запас на анучы.

— Заўтра, як прыеду з лесу, падшыю скуратом, і табе надоўга хопіць іх, — звязаў бацька лычкам лапці і палажыў на лаву.

Але ж ці мог я дачакацца, пакуль падшыюцца тыя лапці. Раніцай, як толькі бацька паехаў у лес, я папрасіў маму пашукаць анучак, а вяровачкі знайшоў сам.

— Абуйся, але з хаты не выходзь, каб не запэцкаць, — дазволіла мама. — Падшые бацька, тады будзеш па двары ў іх бегаць.

Я паабяцаў, але стрымаць слова не змог. Пасля абеду мама з Юзікам, маім старэйшым братам, панеслі карове ў хлеў цэбар з паранкай, а я тым часам шмыгнуў за дзверы на двор, адтуль на вуліцу, і толькі мяне бачылі.

Дзе мае равеснікі праводзілі час зімою, я добра ведаў. Гэта на невялікім азярку за вёскай. Там заўсёды было весела і шумна. Улетку мы купаліся ў ім, а ўзімку — коўзаліся, на драўляных, акутых дротам каньках, хто на трэсцы ці лучынцы, а то проста без нічога, на чаравіку ці лапці.

Пакуль Юзік прыбег па мяне, я ўдосталь накоўзаўся ўжо.

— Дзе ты прападаеш? Разувайся ды сушы лапці, зараз бацька прыедзе, ён табе дасць гулянку, — пагразіла мама.

Не чакаючы, пакуль разуюся, яна сама развязала аборы* і зняла правы лапаць. Перавярнула і аж збялела ў твары.

— Што ты, Алеська, натварыў? — паказала яна на праслізганыя дзіркі ў наску і пятцы. — Новыя лапці знявечыць! І мне яшчэ трэба было здурнець — анучкі даць...

Я стаяў разгублены і не ведаў, што адказаць. Відаць, шурпаты лёд пасля адлігі быў усяму віною. На слізкім скора так не даліся б, дарма што ліпавая кара.

— Ну, а левы як, разувайся. Чаго ж стаіш?

На левым аказалася толькі адна дзірка ў наску: ім я адштурхоўваўся пры коўзанні.

Самае горшае было наперадзе. Тыя вяровачкі, што былі ў праслізганых лапцях, прыгадзіліся бацьку на маю навуку.

Аж праз два тыдні сплёў мне бацька новыя лапці. Непадшытыя ён аддаў маме ў рукі, каб схавала. Яна замкнула іх у куфар і ключ узяла ў кішэню. Назаўтра бацька падшыў іх скуратом ад старой хамуціны, аддаючы мне, сказаў:

— Шануй, падзярэш, не скора новыя справіш...

Не так даўно, праз шмат гадоў, я зноў наведаў тое азярко. Тут коўзалася на каньках шмат дзяцей з нашай вёскі. У кірзавых* ботах, у чаравіках.

**Алесь Пальчэўскі**

1. На аснове апавядання раскажыце, як жылося дзецям у даўнія часы.
2. Параўнайце жыццё аўтара са сваім.

**Біяграфічная даведка**

Алесь Пальчэўскі. — Сучасны беларускі празаік. Нарадзіўся ў 1905 годзе ў беднай сялянскай сям'і. Піша для дзяцей.

**Слоўнік**

Луточкі, луткі — ліпавыя дубцы.

Абора — тонкая вяровачка, якой прымацоўваецца лапаць да нагі.

Кірзавыя боты — боты з тоўстай тканіны, насычанай асобым саставам для засцярогі ад вільгаці.




## ПАЎСТАННЕ Ў ПІНСКУ

Горад Пінск у тыя часы быў адным з буйнейшых і багацейшых гарадоў на беларускіх землях. Паложаны на скрыжаванні гандлёвых дарог па сушы і рэках, ён хутка разрастаўся і магутнеў. У ім жыло шмат купцоў і рамеснікаў. Каменныя і драўляныя будынкі горада шырока прасціраліся па беразе ракі Піны. У сярэдзіне горада ўзвышаўся драўляны замак, а вакол горада цягнулася высокая і моцная драўляная сцяна.

Восенню 1648 года ў Пінску ўспыхнула паўстанне. Ім кіравалі рамеснікі: сядзельнік Шапеня, шапачнік Мяшковіч, кравец Велясніцкі, кушнер Сачыўка і іншыя.

Частка феадалаў была знішчана паўстанцамі, а рэшта на чале з войтам, палкоўнікам Ельскім, паспела ўцячы. Збеглі з горада езуіты і каталіцкія духоўныя. Іх ненавідзелі пінчане не толькі за тое, што яны прымушалі пераходзіць на каталіцкую веру, але і за іх здзерствы і ліхвярства.

Паўстаўшыя выбралі сваю гарадскую раду, падзялілі дабро ўцёкшых паноў і духавенства паміж беднякамі, устанавілі ва ўсім горадзе парадак.

Магнаты і духавенства накіравалі ў канцы верасня на Пінск значную колькасць войска і артылерыю. Пачуўшы аб іх набліжэнні, пінчане аб'ядналіся з казацкім атрадам Нябабы і навакольнымі сялянамі. Супольнымі сіламі пачалі ўмацоўваць горад.

Адзін з вайсковых атрадаў пад кіраўніцтвам палкоўніка Ельскага ўварваўся ў горад. Калі ён набліжаўся да замка, раптоўна з усіх бакоў на яго сыпнулі кулі. Войска, пакідаючы забітых і раненых, кінулася наўцёкі з горада.

Пасля няўдалага нападу атрада Ельскага да сцен Пінска падступілі войскі на чале з князем Мірскім.

Паўстанцы рыхтаваліся да бою, умацоўвалі гарадскія сцены, рабілі завалы, перакопвалі равамі вуліцы. Насельніцтва дапамагала ім: з касцельных і манастырскіх будынкаў знімала вокны, здзірала з рамаў волава і вылівала кулі.

Кастрычніцкай раніцай войскі пачалі штурм горада. На гарадскія сцены кідалася атака за атакай праціўніка. Паўстанцы з поспехам адбівалі. Толькі на змярканні войску ўдалося ўварвацца ў горад. Тады барацьба пайшла за кожную вуліцу, кожны дом. Бітва станавілася заядлай і працяглай. Князь Мірскі загадаў падпаліць горад. Нямецкія наёмнікі адразу выканалі яго загад. Неўзабаве ўвесь Пінск патануў у полымі. Але гэта не спыніла паўстанцаў. Абарона працягвалася.

Атраду Нябабы ўдалося прабіцца скрозь рады наёмнай нямецкай пяхоты і вырвацца з палаючага горада. Кавалерыя Мірскага акружыла атрад і сапхнула яго ў багну. Казакі біліся па-геройску, але сілы былі няроўнымі. Усе яны, разам са сваім важаком Нябабам, загінулі.

У горадзе барацьба не спынялася. Паўстанцы гінулі ў агні, але не здаваліся. Толькі на наступны дзень войску ўдалося зламаць абаронцаў Пінска.

Падобна як пінчане, гераічна змагаліся паўстанцы ў Мазыры і Бабруйску.

Доўга яшчэ бурліла паўстанне на беларускіх землях. Аднак магнатам удалося сабраць больш войска і накіраваць яго супроць паўстаўшых. Паўстанцы ж дзейнічалі разрозненна і гэта аслабляла іх. Не патрапілі яны стварыць моцнай і добра ўзброенай арміі. Не было сярод іх і здольнага кіраўніка, якім, напрыклад, быў Багдан Хмяльніцкі на Украіне. Усё гэта было прычынай упадку паўстання на Беларусі.

Аднак нягледзячы на тое, што паўстанцы на Беларусі пацярпелі паражэнне, яны сваёй гераічнай барацьбой дапамаглі брацкаму украінскаму народу ў яго змаганні за вызваленне.

*ПЫТАННІ І ЗАДАННЕ*

*1) Чаму беларускія сяляне і мяшчане ўцякалі на Украіну і далучаліся да войск Багдана Хмяльніцкага?*

*2) Раскажыце, як праходзіла паўстанне і абарона Пінска.*

*3) Што было прычынай паражэння паўстання на Беларусі?*

### АБ КІМ НАЙБОЛЬШ НАПІСАНА

Найбольш улюблёным літаратурным персанажам, бясспрэчна, з'яўляецца Напалеон. Аб ім напісана звыш 10 тысяч кніг.

### СУПРАЦЬ НАСЯКОМЫХ

Савецкія вучоныя атрымалі сродак, які забівае рознага тыпу насякомыя і назвалі яго — **энтабактэрын—3.** Доследы паказалі, што ён не шкодны не толькі здароўю людзей, але і раслінам у кожнай фазе іх развіцця. Не шкодзіць таксама птушкам, пчолам і карысным насякомым.

Вартасць новага сродка і ў тым, што шкоднік, які сутыкнуўся з энтабактэрынам, перастае карміцца, а пасля некалькіх гадзін ад апылення або апырскання раслін большасць шкоднікаў гіне.

Спецыяльныя дадаткі даюць магчымасць энтабактэрыну прыклейвацца да лісткоў і сцёблаў, дзякуючы чаму ўтрымоўваецца ён на раслінах праз некалькі дзён, выконваючы тым самым прафілактычную ролю. Праведзеныя доследы даказалі, што ад энтабактэрыну гіне каля 35 гатункаў насякомых, у тым розныя малі, каларадскі жук і іншыя.

(а-ка)




Пасля сваёй размовы з Робертам Кенедзі Джонсан атрымаў прыемную перадышку: кіраўнікі кангрэсу з'явіліся да яго натоўпам, каб запэўніць у сваёй падтрымцы.

**34-Ы і 36-Ы**

Пасля гэтай сустрэчы, якая падбадзёрыла яго, прэзідэнт разам з жонкай правёў кіраўнікоў кангрэса міма пустога кабінета ва Усходні пакой. Адыходзячы ад труны ён убачыў Дуайта Эйзенхауэра і запрасіў яго перайсці на іншы бок вуліцы на 20-мінутную гутарку. Сапраўды, іх размова аказалася самай працяглай, якая адбылася ў гэты першы дзень прэзідэнцтва Джонсана. Яна працягвалася дзве гадзіны, і трыццаць чацвёртаму прэзідэнту здалося, што трыццаць шосты не зусім ў сабе ўпэўнен.

— Я даўно ведаю яго. Ён, як і заўсёды, быў усхваляваны — хадзіў па пакоі і ўвесь час камусьці званіў... Я ўспамінаў чыё-небудзь імя ў размове, і ён тут жа хапаўся за трубку і пачынаў званіць гэтаму чалавеку. Ён прасіў маёй парады па самых розных пытаннях, у тым ліку па зніжэнню падаткаў. Я сказаў яму, што ён павінен паказаць, што ён мае намер зрабіць са сваім бюджэтам. Мы абмеркавалі і міжнародныя справы. Наколькі я тады мог меркаваць, Ліндан Джонсан хацеў толькі аднаго — азнаёміцца са справамі і прадоўжыць ранейшую палітычную лінію. Ён не прапаноўваў нічога новага або адменнага. Ён вяртаўся ў размове да Лаоса, да Кубы і іншых спраў. Стваралася ўражанне, што ў знешнепалітычных справах ён менш паінфармаваны, чым ва ўнутраных справах краіны.

У час гэтай гутаркі, якая зацягнулася, Мак Бандзі на цыпачках ўвайшоў у пакой і паклаў на стол пісьмо Шлезінгера аб адстаўцы. Джонсан абурыўся.

— Скажыце яму, каб ён узяў яго назад, — сказаў ён. — Я не жадаю такіх пісьмаў. І скажыце ўсім, што я гавару гэта не для прыгожага слоўца.

Эйзенхауэр намякнуў Джонсану, што ён робіць памылку. Як ён потым успамінаў, ён сказаў прыкладна наступнае:

— Вазьміце ўсе пісьмы аб адстаўцы. Вы павінны заставацца самім сабой. Вы павінны зацвердзіцца. Вы спачатку павінны іх узяць, а потым вырашыць у наступныя тры або чатыры дні, якія з іх вы маеце намер прыняць.

Джонсан змрочна глядзеў на яго. Пасля пахавання ён пачне спрытна і ўмела падбіраць свой апарат, адчапіўшыся нават ад такіх саветнікаў, якія самі лічылі б за лепшае застацца. Але 23 лістапада любую думку аб пераменах ён сустракаў у штыкі, надзвычай эмацыянальна. Здавалася нават, што ён разглядаў выхад з урада як крок раўназначны дэзерцірству.

На пасяджэнні кабінета, якое адбылося днём Дзін Раск напомніў яму, што па традыцыі ўсе члены кабінета павінны падаць заявы аб адстаўцы з прыходам новага прэзідэнта. Джонсан упартa хістаў галавой; ён заявіў, што хоча, каб усе заставаліся на сваіх месцах цяпер ужо як яго саветнікі. Раск напомніў, што гутарка ідзе аб прэцэдэнце; новы кіраўнік дзяржавы ў будучым можа пажадаць, каб усе міністры заставаліся на сваіх месцах. А Джонсан усё ўпіраўся.

Членам кабінета, якія ўсё ж падалі заявы аб адстаўцы, ён нават не паведаміў, што іх атрымаў. І калі ў той жа вечар сустрэў Сорэнсена і той упамянуў аб сваім пісьме, прэзідэнт бесцырымонна адказаў: «Ведаю, ведаю, ваша пісьмо ў мяне» — і хутка перамяніў тэму размовы.

Новы прэзідэнт і новая першая лэдзі прысутнічалі на паніхідзе па прэзідэнту Кенедзі. Пасля забойства мінула ўжо дваццаць чатыры гадзіны. Было за поўдзень, і Шлезінгер арганізаваў «гарвардскае снеданне», як яго пасля гэтага пачалі называць. Снеданне адбылося ў кабінеце «Заходняга рэстарана», які знаходзіцца насупраць будынка міністэрства фінансаў.

Пасля Гэлбрэйт пісаў у сваім дзённіку, што «Артур быў у даволі дрэнным настроі..., ён вельмі востра рэагаваў на ўсё і многа гаварыў аб магчымасці вылучэння ў 1964 годзе выбарчага спісу Боб Кенедзі — Губерт Хэмфры. Гэта, вядома, чысцейшая фантазія, хіба толькі Джонсан акажацца зусім непрыгодны, ды і ў гэтым выпадку гэта нерэальна».

Падзеі, якія разгарнуліся пасля снедання, такія ж тыповыя. Шлезінгер прысутнічаў на нарадзе супрацоўнікаў

# ТРЫБУНА чытачоў

## НАРАДА ГУРТКОЎЦАЎ

Павятовае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы арганізавала рабочую нараду для праўленняў гурткоў, якія не маюць трактараў.

На нарадзе стаялі пытанні барацьбы з пустазеллем, абмену насення і ўдабрэння зямлі і зялёных лугоў штучным угнаеннем.

Дыскутанты гаварылі аб дзейнасці сваіх гурткоў і аб намерах на будучы год. Падсумаваў дыскусію старшыня Павятовага праўлення сельскагаспадарчых гурткоў Мікалай Сапежка. Хваліў ён многа гурткоў за добрую дзейнасць і асягнутыя надвыжкі ў іх рабоце. Успамінаў таксама такія гурткі, дзе ніякай дзейнасці няма сярод вясковага актыву. Між іншым, да апошніх належыць гурток у Агародніках, дзе ў адной асобе выступае старшыня, сакратар і скарбнік.

(М. Л.)




Змену цэн на мяса і мясныя прадукты рашыла выкарыстаць для ўласнай нажывы прадаўшчыца самаабслуговай крамы № 1 у Гайнаўцы Анна Хворас. У час перападліку (рэманенту) тавараў схавала яна 133 мясныя кансервы па 19 зл. кожная і 50 пачак парашкаваных супаў па 1,20 зл. Па загаду павятовай камендатуры М.О. у Гайнаўцы быў паўторна праведзены перападлік тавараў і хітрасць прадаўшчыцы выявілася.

Жыхар Міхалова Язэп Пшыгодзкі абвініў Крыстыну Хробак з Фаст у пакражы 25-ці паўночнаамерыканскіх долараў. К. Хробак прызналася да пакражы і сама аддала долары міліцыянерам.

Уладзіслаў Наступ з вёскі Волька ў Дуброўскім павеце па-п'янаму падвозіў матацыклам «Ява» Вацлава Клімовіча. У час гэтай язды на двух «газах» з вялікай хуткасцю наехаў на плот. Пасажыр Вацлаў Клімовіч памёр ад ран. Лёгкадумнага матацыкліста Ул. Наступу арыштавала міліцыя.

Лявонь Артымюк з мясцовасці Крыжы ў Гайнаўскім павеце, паклікаючыся на знаёмствы з працаўнікамі з Цэнтралі насеннай, абяцаў гаспадарам карысна аформіць продаж насення. За гэтую «прыслугу» браў грошы. Камбінатарам занялася міліцыя.

Адзінаццацігадовы хлапчук Славамір Грабаўскі з Бельска займаўся хатнімі пакражамі ў прыватных кватэрах. Калі міліцыя пачала следства, малады злодзей перапалохаўся і ўцёк ад бацькоў. Пакуль што ўжо тыдзень часу няма яго дома. Міліцыя падазравае, што можа ён кантактавацца з другімі малалетнімі зладзеямі, і таму загадала шукаць яго ва ўсім ваяводстве.

**Асака**

Белага дома, дзе Бандзі ўгаварваў усіх заставацца на сваіх месцах, і Гэлбрэйт сутыкнуўся з новым прэзідэнтам на вуліцы Уэст-экзек'юціў.

— Я шукаю вас, — сказаў Джонсан (Гэлбрэйт усумніўся; што гэта было сапраўды так). — Мне трэба з вамі пагутарыць — зойдзем на хвілінку.

Джонсан папрасіў яго напісаць для яго прамову, з якой ён павінен быў выступіць на сумесным пасяджэнні кангрэсу. Закончыўшы гэтай раніцай некралог аб Кенедзі для «Вашынгтон пост», Гэлбрэйт шукаў новы повад, каб пастукаць на пішучай машынцы, і быў нявыказана ўсцешаны. Зусім дарэмна. Прэзідэнт ужо звярнуўся з той жа просьбай да паўтузіны людзей. Калі вы былі пісьменныя, асвядомлены і дастаткова выказвалі думкі, вы падлягалі мабілізацыі.

Джонсан гарэў жаданнем выступіць у кангрэсе, і гэта яго жаданне было зразумела. Усе былі ўзрушаны здарэннем. І чым хутчэй яны пачуюць голас свайго новага кіраўніка, які звернецца да іх з важным пасланнем, тым лепш. Але ён усё яшчэ не адважваўся, намацваў глебу. Аднак у 2 гадзіны 30 мінут дня 23 лістапада яму прадставілася выключна зручная магчымасць для такога зандажу. На гэты час назначана пасяджэнне кабінета.

**(Працяг будзе)**

## ВАСІЛЬ ЦЯЛУШЭЦКІ



Васіль Цялушэцкі працуе кіраўніком школы ўжо 12 гадоў. Раней узначальваў школу ў Луцэ, а цяпер васьмігодку ў сваёй роднай вёсцы Ляўкова (Гайнаўскі павет). Гэта шматгадовы, дасведчаны педагог і добры арганізатар педагагічнай работы. Школа з'яўляецца пачынальнікам многіх культурна-асветных мерапрыемстваў у сваім шырокім асяроддзі. Як член ПАРП Васіль Цялушэцкі вядзе ідэалагічныя курсы. Нядаўна па яго ініцыятыве пры клуба-кавярні ў Старым Ляўкове створана 18 малышам дашкольнага ўзросту спецыяльнае агніска, якое вядзе мясцовы настаўнік Мікалай Бартошук. В. Цялушэцкі да таго вучыцца завочна ў Варшаве на 3 курсе ў Галоўнай школе Сельскай гаспадаркі, і вучыцца паспяхова. Словам, знаходзіць вольны час і на пашырэнне сваіх ведаў.

Усю сваю душу аднак аддае справе выхавання і навучання не толькі школьнай, але і пазашкольнай моладзі.

(Я. Ц.)
Ляўкова




**Дарагое Сэрцайка!**

Часта чытаю твае парады, і таму я пастанавіў напісаць да цябе. Жыву я на вёсцы і маю 21 год. Паўгода таму пазнаёміўся з дзяўчынай з суседняй вёскі. Кожную суботу і нядзелю праводжу з ёю, і моцна яе пакахаў. Калі не паеду нядзелю ці дзве, дык так цяжка на сэрцы і з нецярплівасцю чакаю сустрэчы з ёю. Галіна мае 18 год, вельмі добрая дзяўчына. Апошнім разам быў я ў яе 3 тыдні таму, і яна мне сказала, што адна жанчына сказала ёй што святам я быў у іншай дзяўчыны і што яе бацькі даюць мне многа тысяч у пасагу, каб я толькі з ёю ажаніўся А гэта ж няпраўда. І я Галіне сказаў, што няпраўда, аднак нарачоная мая моцна змянілася. Вось да чаго даводзяць бабскія плёткі. Парай, Сэрцайка, што рабіць. За параду буду ўдзячны.

Уладзік з Беласточчыны

Дарагі Уладзік!

Нічога тут не паможа. Не можаш жа даказаць ёй гэтага, як у судзе. Зрэшты, гэтага табе і не раю. Проста не трэба табе гневацца, а паехаць да Галінкі як заўсёды і правесці з ёю шчырую размову. Ты ёй проста скажы, што мусіць табе паверыць на слова, бо ж іншага выйсця няма. Паверыць, калі зразумела цябе кахае сур'ёзна, па-сапраўднаму. У тым выпадку толькі шчырай размовай можаш пераканаць Галінку ў тым, што гэта няпраўда, і што плёткі на вёсцы вельмі ж часта здараюцца, аб чым не мусіш тлумачыць Галінцы. Пры аказіі даведаешся, ці Галінка кахае цябе так, як ты яе. А калі кахае, напэўна паверыць табе і перастане больш слухаць плётак.

Жадаю ўсяго найлепшага
Сэрцайка

## ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ «НІВЫ»

Напярэдадні 50-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі я, грамадзянін Савецкага Саюза, Кужыльны Іван Мітрафанавіч разам з маці Кужыльнай Харыцінай Іванаўнай, пабываў у Польскай Народнай Рэспубліцы на Вашай цудоўнай Беластоцкай зямлі. Наша паездка была не турыстычнай.

Прайшло ўжо звыш 22 гады, як адтрымелі апошнія залпы армат другой сусветнай вайны. За гэтыя гады, як у нас у СССР, так і ў Вас у Польшчы залечаны раны вайны. Адбудаваны гарады і вёскі. На палях грахочуць трактары, а не танкі. Квітнеюць сады. Усміхаюцца дзеці. Зацягнуліся рубцамі раны на целе людзей.

Але раны нанесеныя вайной на сэрцы мацярак зажыць не могуць. Мацяркі і да сённяшняга дня не вераць у страту самага дарагога — сваіх дзяцей. Падаючы на стол абед, мацяркі кладуць ложку і для тых, хто ўжо больш ніколі не вернецца дамоў. Вось так і мая маці пастаянна чакае сына, які забіты 25 ліпеня 1944 года ў няроўным баі з нямецкімі танкамі за вызваленне вёскі Волька Выганоўская, Бельскага павета. Спачатку ён быў пахаваны на месцы смерці. У 1947 годзе магілы былі перанесены на брацкі могільнік у Мілейчыцы, Сямяціцкага павета, дзе спачывае звыш 1600 воінаў.

Маме 66 год. Яна выказала жаданне хоць перад смерцю пабываць на магіле свайго роднага малодшага сына. Такому жаданню маці адмовіць немагчыма.

І вось мы выехалі па адрасу, указанаму ў паведамленні райваенкома аб смерці сына. Шчыра кажучы, ехалі і не ведалі, як даедзем, як адшукаем магілу, як сустрэнуць нас на месцы.

Што ж мы ўбачылі? Як толькі ступілі на польскую зямлю, мы адразу адчулі клопаты пра нас. Да каго б мы не звярталіся, усюды адчувалі цеплыню сэрцаў і сяброўскія адносіны польскіх грамадзян. Такога прыёму, які нам аказалі на Беластоцкай зямлі, мы ніколі не чакалі. Знаходзіліся ў Вас, а адчувалі, быццам знаходзімся ў сябе дома.

Партыйныя органы і мясцовыя ўлады Бельскага павета і вёскі Волька Выганоўская накіравалі свае дэлегацыі разам з намі для ўскладзення вянкоў на магілу майго брата і да абеліска ўсім загінуўшым 1600 воінам. Улады, насельніцтва і школа Мілейчыц вышлі на брацкі могільнік са сваімі дэлегацыямі і вянкамі. Адбыўся жалобны мітынг.

Горка плакала маці, стоячы на каленях ля магілы сына. Усе ўдзельнікі жалобнага мітынгу сталі ў цяжкім маўчанні са слязьмі ў вачах, калі маці пасыпала магілу сына украінскай зямлёй. У гэтыя мінуты плакалі ўзрослыя і дзеці. Яны аплаквалі тых, хто аддаў самае дарагое чалавеку — жыццё для таго, каб больш не было вайны.

Паважаная рэдакцыя, я пішу гэтае пісьмо і адначасова звяртаюся да Вас з просьбай, каб на старонках Вашай газеты выказаць вялікую ўдзячнасць за сяброўскі прыём, сардэчныя і цёплыя пачуцці ўсіх, з кім нам давялося сустрэцца на Беластоцкай зямлі.

З павагай да Вас

Кужыльны Іван Мітрафанавіч
УССР, гор. Чэркасы

## ПАПСУТЫ ТЭЛЕВІЗАР

Сяляне вёскі Плёскі часта марылі аб супольным тэлевізары. Школьнікі зносілі на гэту мэту злом, макулятуру, сяляне складалі грашовыя сумы. Адным словам, усе жыхары як маглі памагалі зібраць «тэлевізійны фонд». Надыйшоў час, і ў школе ў Плёсках паявіўся тэлевізар. Усе былі вельмі рады, старыя і малыя. Радасць трывала аднак коратка. Кіраўніцтва школы забараніла аглядаць праграму старэйшым, даказваючы, што тэлевізар куплены толькі для дзяцей. Сторaж школы не хацеў пасля старэйшых замятаць школьную залу. Ужо больш двух гадоў, як тэлевізара ніхто не аглядаў. Стаіць ён пад замком у школьнай шафе. Кіраўнік гаворыць, што папсуты, і таму ніхто не аглядае. Праз два гады папсуты? Дзіўна. Праз два папярэднія гады патрапілі сабраць чатырнаццаць тысяч злотых. А цяпер праз два гады няма за што направіць. Ніхто ў гэта ў Плёсках не верыць. Справа не ў рамонце. Надыходзяць доўгія зімовыя вечары. Кожны гаспадар ахвотна пайшоў бы ў школу пабачыў бы, што дзеецца на свеце. На вёсцы патрэбна культура. У Плёсках не дбаюць аб яе. Школа павінна падумаць і аб старэйшых, і на прыкладзе суседніх школ, як у Рыбалах ці Дзяніcках пусціць на тэлевізар дзяцей і старэйшых. Ці яго купілі на тое, каб стаяў?

**Лёня Леанюк**
Плёскі
па просьбе сялян

## У ПЯНЬКАХ ЭЛЕКТРЫЧНАЕ СВЯТЛО

У Пяньках не так даўно праведзена электрычнае святло. І адразу жыццё ў вёсцы змянілася. Людзі масава пачалі купляць сціральныя машыны, электрычныя прасы, продзіжы. У Пяньках цяпер звыш 10 тэлевізараў. На кожным кроку электрычныя маторы. Электрычнае святло аблягчае цяжкую сялянскую працу. Узяць бы, для прыкладу, такую электрычную даярку. Гэта вельмі карысны інструмент: скарочвае час надою, і малако чысцейшае. Праз усю вёску ідуць электрычныя слупы і свецяць вечарамі электрычнымі лямпачкамі. Наша вёска набліжаецца да горада.

**Уладзімір Азябла**
Пянькі

# КІНО

**Праграма**
**на 19—24.XII.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Iwona Gola" (czeski), 19—20. „Na pokładzie stanął kapitan" (radz.), 21—22. „Mroźny poranek" (radz.), 23—24.

**Кляшчэлі**

„Najazd czarnego księcia" (radz.), 19—20. „Całe złoto świata" (franc.), 21—22. „Zwykła historia" (polski), 23—24.

**Дубіны**

„Iwan Groźny" (radz.), I i II s. 23—24.

**Нараўка**

„Pancernik Potiomkin" (radz.), „Pluton 317" (franc.), 20—24.

**Нарва**

„Biała pani" (czeski), „Zerwany most" (polski), 20—24.

**Чыжы**

„Zejście do piekła" (polski), „Człowiek z karabinem" (radziecki), 20—24.

**Дубічы Царкоўныя**

„Wzgórze" (angl.), „Czas rozłąki" (radz.), 20—24.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Wołga, Wołga" (radz.), „Miejsce dla jednego" (polski), 20—24.

**Орля**

„Matczyne serce" (radz.), „Pierwszy dzień wolności" (polski), 20—24.

**Райск**

„Upiór z Morsville" (czeski), „Zwyczajny faszyzm" (radz.), 28—24.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„BS-38-15" (NRD), „Bicz Boży" (polski), 19—22.

**Міхалова**

„Zielone światło" (radz.), 19—20. „Protegowany" (jugosł.), 21—22. „Katastrofa" (polski), 23—24.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Gładka skóra" (franc.), 19—20. „Iwan Groźny" (radz.), I i II s. 21—24.

**Шудзялава**

„Umarli milczą" (NRD), „Zemsta OAS" (franc.), 20—24.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Zbrodniarz i panna" (polski), „Dzieci Don Kichota" (radz.), 20—24.

**Новы Двор**

„Kochajmy syrenki" (polski), „Matczyne serce" (radz.), 23—24

**Ліпск**

„Popioły" (polski), I i II s. 23—24.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7 Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3 NAKŁAD 7897

